# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ

Выдаюць: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы
Саюз Беларуска - Амэрыканскае Моладзі

**21**

# BYELORUSSIAN YOUTH

Published by: Byelorussian Youth Association of America
Byelorussian - American Youth Association

1964

ЗЬМЕСТ




Рэдакцыйная калегія й адміністрацыя:

М. Бахар
Я. Запруднік
В. Кіпель
В. Мельяновіч
М. Палюховіч
М. Сенька
В. Станкевіч
Ю. Станкевіч
В. Цярпіцкі
Л. Шурак

НАШЫЯ ПРАДСТАУНІЦТВЫ

ЗША
Miss Helen Lukjanczyk, 2560 W. 10th Street, Cleveland 13, Ohio
Mr. M. Kuczura, 1217 N. Wolcott Ave., Chicago 22, Ill.
Miss S. Pleskacz, 17574 Brusb Ave. Detroit 3, Mich.
Mr. M. Sienka, 24 Herman St., South River, N.J

КАНАДА
Mr. U. Baranovich, 111 Lindsey Ave., Toronto, Ont., Canada
Mr. J. Babrouski, 1008 Dovercourt Rd. Toronto, Ont., Canada
Miss M. Ignatau, 7808 Birman Street, Montreal, Que., Canada

АНГЕЛЬШЧЫНА
Mr. A. Laszuk, 97 Moore Park Road, London S. W. 6, England

БЭЛЬГІЯ
Mr. M. Streczyn, Place Hoover 19, Louvain

АЎСТРАЛІЯ
Mr. W. Akavity, 80 Tapleys Hill Rd., Royal Park, S. A., Australia
Mr. M. Nikan, 14 Steel St., Spotswood, Victoria
Mr. A. Vasilenia, 39 Edwin St., Croydon, NSW

Гадавая падпіска у ЗША й Канадзе — $ 2.— Грошовыя перакaзы выстаўляць но:
"BYELORUSSIAN YOUTH"
Text in English and Byelorussian. Four times a year.
Supplements issued irregularly.


ПАШТОЎКІ З ІКОНАЙ БОЖАЕ МАЦІ можна замовіць, пішучы на адрыс:
Mrs. Tamara Kolba, 260 Riverside Drive, New York 25, N. Y.


Усю карэспандэнцыю, зьвязаную з часапісам, просім слаць на:
BYELORUSSIAN YOUTH
P. O. 4357
GRAND CENTRAL STATION
NEW YORK 17, N. Y.


# БЕЛАРУСКАЯ МОЛАДЗЬ


Квартальны часапіс беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы
Выдаюць: Згуртаваньне Беларускае Моладзі ў Амэрыцы
Саюз Беларуска - Амэрыканскае Моладзі
Рэдагуе: Калегія

Год. выд. VI. ВЯСНА — 1964 № 21


ХРЫСТОС УСКРОС!




ХРЫСТОС УСКРОС! (printed vertically)

## УСКРЭСЬНІ!

Ён уваскрос.
Ён — дзесь між намі.
Ён там, дзе ў срэбным пыле лоз,
у сіняй смузе над палямі
вісіць вясна...
Ён уваскрос!
Ускрос
і зноў па Беларусі
перад сабой ідзе Хрыстос...
Няхай над родным папялішчам
усьцяж галосіць нема лёс,
няхай крывавяць нас і нішчаць, —
ускрэсьне край,
бо й Ён ускрос!
Мацней за сьмерць,
за ўсё
каханьне
зямлі, дзе ад дзіцяці ўзрос...
О, Беларусь!
Ускрэсьні-ж сяньня
І Ты, як уваскрос Хрыстос!

Н. АРСЕНЬНЕВА

## КАЛІ БУДЗЕ СКЛАДЗЕНАЯ ЭНЦЫКЛЯПЭДЫЯ БЕЛАРУСАВЕДЫ

„Беларусь у нямецкай энцыклапэдыі” — гэткі артыкул надрукаваны ў газэце „Літаратура й Мастацтва” ў нумары за 24 студзеня. Аўтар аналізуе ў ім, што піша нямецкая энцыкляпэдыя Мэра пра Беларусь. Артыкул канчаецца сьцверджаньнем, што матар'ялы нямецкае энцыкляпэдыі дапамогуць знаёмству й мацаваньню сяброўскіх сувязяў паміж беларускім і нямецкім народамі. У беларускага чытача „Літаратуры й Мастацтва” ўзьнікае думка: пра Беларусь пішуць у энцыкляпэдыях і Немцы, і Французы, і Ангельцы, і Гішпанцы, і шмат хто яшчэ, а вось для Беларусаў беларускае энцыкляпэдыі няма. Чаму? Няма каму гэткую энцыкляпэдыю скласьці? Мусіць не таму. Бо ў БССР ёсьць і Акадэмія Навук, і дзесяткі вышэйшых науковых установаў. Яны, бясспрэчна, склалі-б ці адну энцыкляпэдыю. Але чамусьці — не складаюць. І сапраўды выходзіць нея к парадаксальна. Пра Беларусь XVI-га — XVIII-га стагодзьдзяў савецкія гісторыкі пішуць, як пра паняволены край. Але Беларусь яшчэ колькі сот год таму мела свае энцыкляпэдыі, перш рукапісныя, а тады й друкаваныя. Беларускія энцыкляпэдычна-моўныя слоўнікі Лаўрэна Зізанія ды Памвы Бэрынды 16-17 стагодзьдзяў былі вузорамі іншым славянскім народам. Цяпер-жа, за савецкай уладай, ня знойдзеш нідзе ніякіх статыстычных, геаграфічных ды гістарычных даведнікаў пра Беларусь. Чаму няма, прыкладам, даведніка тыпу „Уся Беларусь”, што быў пачаты ў дваццатых гадох, а тады — забаронены? Чаму не выдаюцца ў БССР беларуска-замежнамоўныя слоўнікі? Чаму беларускія дзеці змушаныя вучыцца чужое мовы зь небеларускіх падручнікаў?

Які-ж адказ на ўсе гэтыя пытаньні? Хто спрычыніўся да таго, што няма беларускае энцыкляпэдыі, слоўнікаў, гістарычных і статыстычных даведнікаў?

Некалі-ж, у дваццатых гадох, беларуская энцыкляпэдыя рыхтавалася ўжо да друку. Дзесьці ў 1960 годзе ў рэспубліканскім друку прамільгнула была зьвестка, што беларуская энцыкляпэдыя пачне неўзабаве ўкладацца. Аднак, больш аб гэтым нічога й ня згадвалася. Дык хто-ж тады ня хоча, каб Беларусь мела сваю энцыкляпэдыю, слоўнікі й даведнікі?

Адказ ясны: той самы вораг, што забараняў беларускую мову, нішчыў беларускую культуру, вывозіў нацыянальныя багацьці, ссылаў на зьдзек і сьмерць беларускую нацыянальную інтэлігенцыю, хто забірае зь Беларусі ейную будучыню — моладзь, для каго БССР — адно прыдатак да цэнтральных раёнаў Расейскае Фэдэрацыі!

**БАЦЬКІ БЕЛАРУСЫ! Запісавайце ўжо цяпер сваіх дзяцей у БЕЛАРУСКІ ЛЕТНІ ЛЯГЕР пры БЕЛАРУСКІМ ЦЭНТРЫ АДПАЧЫНКУ «БЕЛЭР — МЕНСК». Прыймаюцца хлапцы й дзяўчаты ў веку ад 7 да 14 год.**



## АДКЛАД НЯ ЙДЗЕ У ЛАД

Шмат гаварылася ўжо аб вялікай патрэбе мець шырака й добра напісаную кніжку пра Беларусь у ангельскай мове. Нястачу гэткае кнігі вельмі адчуваюць усе, хто сутыкаецца з чужынцамі і ў грамадзкай працы і ў прыватным жыцьці. Найбольш стратны ж на гэтым сам беларускі народ, аб якім чужынцы або зусім ня чулі, або чулі, але у расейскім пераважна насьвятленьні.

Хтось можа папытаецца: чаму гэта так? Сяньня на Захадзе вывучаюць у школах савецкую праблему. Людзі, што ёю займаюцца, гэта пераважна палітыкі, або тыя студэнты, што неўзабаве ці некалі будуць палітыкамі, дыпляматамі, заканадаўцамі, людзі, што маюць, або будуць мець у будучыні ўплыў на фармаваньне палітыкі наагул і ў дачыненьні да Беларусі ўпаасобку. Якімі-ж крыніцамі маюць яны карыстацца, каб вырабіць сабе пагляд на нашыя справы? Што знойдуць яны аб Беларусі на кніжных паліцах бібліятэкаў, асабліва ў замежных мовах? Пераканацца ў гэтым вельмі лёгка, зазірнуўшы ў публічныя або ўнівэрсытэцкія бібліятэкі Амэрыкі, Канады ды іншых краёў.

Найбуйнейшыя бадай асяродкі вывучэньня Савецкага Саюзу ў ЗША — гэта Гарвардзкі Расейскі Інстытут, Калюмбійскі Расейскі Інстытут, Карнэльскі Інстытут ды колькі меншых. Зь іх дасьледнікі Савецкага Саюзу й чэрпаюць сваю веду. Нашая трагэдыя ў тым, што ўсе пералічаныя навуковыя ўстановы апанаваныя Расейцамі або іхнымі „спадарожнікамі”, якія памінаюць разуменьне „Беларусь”, а ў лепшым выпадку прыгадваюць яго адно ў этнаграфічным значаньні, як адну з частак Расеі.

Праўда, колькі год таму зьявілася была кніга пра Беларусь — Вакарава „Беларусь: тварэньне нацыі”. Але напісаная Расейцам і выданая Гарвардзкім Расейскім Інстытутам, яна пра наш вызвольны рух і нашыя ймкненьні да незалежнасьці піша гіранічна і кпліва. Шкада, што ня ўсе нашыя старэйшыя лідэры яе чыталі.

Дык няма чаго дзівіцца, калі вышэйшыя амэрыканскія дзейнікі, прыкладам сакратар дзяржаўнага дэпартаманту Дын Раск, выпускнік Гарвардзкага ўнівэрсытэту, сьцьвярджае, што паняволеныя народы — гэта гістарычна складовая частка Расеі й няма патрэбы тварыць для іх спэцыяльных камісіяў пры амэрыканскім кангрэсе.

Ці адзін Раск гэтакага пераканаьня? Нажаль, гэткіх, як ён, бальшыня, дык ня дзіва, што й славутае ўжо „непрадрашэнства” сталася асноваю амэрыканскае палітыкі ў дачыненьні да Савецкага Союзу, ці „Расеі” ў амэрыканскім разуменьні.

Няма сумлеву, што было-б інакш, каб у кнігарнях ды бібліятэках ЗША была, складзеная навукоўцамі, кніга пра Беларусь у ангельскай мове, што насьвятляла-б беларускую справу зь беларускага гледзішча ды знаёміла-б навуковыя й палітычныя колы

(Працяг на бал. 7)

# ТРЫУМФ БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРУ

## (з успамінаў былога дырэктара БДТ Вячаслава Селяха - Качанскага)



Сябры Рэдакцыйнае калегіі часапісу „Беларуская Моладзь” падалі мне, як быламу дырэктару І-га Дзяржаўнага тэатру, думку, што было-б цікава, каб я даў у часапіс свае ўспаміны аб працы гэнага тэатру за часы майго кіраўніцтва ім. Дык тут я й пастараюся даць успаміны аб асабліва цікавых мамэнтах жыцьця й працы тэатру БДТ І, а таксама падаць некаторыя рысы гэтае працы й мастацкіх дасягненьняў, што маюць каштоўнасьць для гісторыі і што, нажаль, у „Гісторыі Беларускага Тэатра” Няфеда не адзначаныя. Але аб гэтым апошнім факце трэба будзе сказаць асобна й шырэй, а цяпер апішу, як мы змагаліся за падвышэньне мастацкага ўзроўню тэатру наагул і за заваёву ўдачы на Ўсесаюзнай Алімпіядзе у Маскве ў 1930 г., дзе БДТ І-ы здабыў першае месца, атрымаўшы грамату з рук ведамага тады старшыні Галоўмастацтва СССР — нябожчыка Фэлікса Кона. На Алімпіядзе былі паказаныя дзьве рэчы: „Гута” Кобеца й „Міжбур'е” Курдзіна, але свой вялікі трыумф БДТ І здабыў галоўна „Гутай”. Будзе ня лішнім успомніць, як нарадзіўся гэты паказ. Улетку 1929 г. пісьменьнік, тады мала ведамы, Кобец, прынёс у дырэкцыю тэатру свой першы, як ён зазначыў пры гэтым, твор - п'есу, сказаўшы рэжысэру Міровічу: „Пазнаёмцеся з маей „Гутай”, можа тэатр зацікавіцца й прыме яе да паказу на сцэне.” У тэатры была „рэпэртуарная камісія” ў складзе рэжысэра Міровіча, актора Рамановіча (аўтара п'есы „Мост”, Зарава й Мастака Марыкса. Гэтая камісія п'есу Кобеца „Гута” забракавала, як быццам-бы не сцэнічную. Я, дырэктар, з гэтай пастановай камісіі не згадзіўся, бо пабачыў, што ў п'есе ёсьць каштоўнае зерне, якое, пры належнай працы рэжысэра й некаторым пераапрацаваньні драматургічным, можа даць добры ўсход, бо была ў ёй сьвежая праблема — вынаходства старога работніка на шклозаводзе ў галіне цяжкой саматужнай працы выдзьмуваньня шкла. Уявіўшы сабе гэта, я, каб зрабіць п'есу больш цікавай і рэалістычнай, адкамандыраваў рэжысэра Міровіча, мастака Крэйна (аб ім трэба будзе сказаць асобна) і аўтара Кобеца на шклозавод „Кастрычнік” у Бабруйшчыне. Там яны прабылі шэсьць дзён і ўвесь час сачылі як працэс самой працы каля „гуты”, так і жыцьцё работнікаў. Міровіч зь пісьменьнікам Кобецам зарысавалі з натуры шэраг мамэнтаў і зьявы з працэсу працы шклозаводу, увялі ў п'есу дадаткова чатырох дзейных асобаў, узяўшы гэтыя тыпы з натуры, а мастак Крэйн занатаваў сабе асобныя малюнкі машынаў і самую гуту. Гэтак, была створаная бадай новая п'еса на аснове п'есы Кобеца. Калі пачалося падрыхтаваньне паказу, дык галоўную працу з акторамі ўзяў на сябе малады рэжысэр Сьмяянаў, запрошаны раней асыстэнтам рэжысэра Вінэра да паказу „Бронецягнік” Ўсевалада Іванава. Аб гэтым маладым таленавітым рэжысэру, гадунцу студыі МХАТ'у, таксама будзе ўспомнена асобна, бо, нажаль, у „Гісторыі” Няфеда ён навет анідзе не адзначаны. А тымчасам, асаблівае майстроўства й стварэньне паасобных вобразаў акторамі трэба заўдзячыць вылучна Сьмяянаву. Міровіч, як стары рэжысэр, дапамагаў у выяўленьні бытавых рысаў гэтага паказу.



Так быў зроблены выдатны паказ „Гуты” з дэкарацыйным афармленьнем мастака Крэйна. Сэзон 1929-1930 г. г. быў у Гомелі да сакавіка, а з 15-га сакавіка — у Магілеве.

У лютым 30-га году былі атрыманыя запросіны на Алімпіяду ў Маскву й БДТ І пачаў рыхтавацца, вызначыўшы два паказы — „Міжбур'е” Курдзіна й „Гуту” Кобеца. Абодва гэтыя паказы былі зробленыя рэжысэрамі Міровічам і Сьмяянавам.

Шае ўражаньне наважвае ўдачу тэатру й набывае яму добрае імя. Аднак, прыехаўшы на Алімпіяду, бачым — на агульнай „зводнай” афішы — „Міжбур'е” стаіць першым, а недзе на самым канцы Алімпіяды — стаіць наш другі паказ „Гута”. Што здарылася? А тое, што ў камітэце Алімпіяды была партыйная група, якая актыўна ўмешвалася ў мастацкія справы. Пра „Гуту” йшлі ўжо чуткі, што гэта арыгінальны й цікавы паказ. Зараз-жа пасьля нашае „Гуты”, паводле першага пляну, мелася йсьці п'еса Харкаўскага „Чырвоназнаменнага” тэатру — „Дыктатура” Мікітэнкі. Дырэктарам і мастацкім кіраўніком гэнага тэатру быў Васылэнка — партыец. Як потым даведаліся, „Дыктатура”, дадзеная адразу-ж пасьля „Гуты”, належнага ўражаньня зрабіць не магла. Вось гэты Васылэнка, праз партыйную групу камітэту Алімпіяды й пераставіў нашую „Гуту” на канец. Што было рабіць? „Міжбур'е” — было таксама нядрэнная п'еса, але-ж далёка яму было да „Гуты”. Ды на гэтым не канец. Гляджу, а перад самым нашым „Міжбур'ем” стаіць паказ ведамага тэатру Вахтангава. Па-



**Калектыў БДТ - І-га на Бранскім вакзале ў Маскве ў 1930 г. На здымку: сп. В. Селях, з штанд. арт. Уладамірскі, за ім У. Крыловіч, зьлева артысткі: Г. Замешына, Ярмоліна, за імі — Гаратаў, Былінскі.**

Каб азнаёміць нашых актораў зь дзейнасьцяй і тэхнікай іншых тэатраў, я ў сакавіку 1930 г., з матар'яльнай дапамогай Галадзеда (тагачаснага старшыні саўнаркому БССР) наладзіў экскурсію актораў БДТ І у Маскву.

Алімпіяда мелася трываць ад 15-га траўня па 15-ы чырвеня, але зацягнулася. У пачатках траўня адбылася папярэдняя нарада дырэктароў усіх тэатраў. Там быў вызначаны парадак паказаў. Я, дырэктар БДТ І, прызначыў першым паказам — „Гуту”, а другім — слабейшае „Міжбур'е”, бо якраз пер-

лажэньне, як кажуць, больш, чымся няспрыяльнае. Пайшоў спрачацца ў камітэт, але нічога ня выйшла. Ды няма дурных! Клічу адміністратара Уладзімера Саладуху й работніка Данілевіча й кажу ім, каб пайшлі да стрэлачніка, пачаставалі яго добрай чаркай і папрасілі загнаць вагон з дэкарацыямі да „Міжбур'я" куды небудзь на запасныя шляхі, каб яго й за два тыдні не знайшлі. Гэтак і было зроблена. У камітэце Алімпіяды я заявіў, што не магу ставіць „Міжбур'я" ў вызначаны на афішы час, бо вагон з дэкарацыямі для гэтага паказу недзе загублены. Камітэт падняў на ногі ўсю чыгуначную адміністрацыю. Паляцелі тэлеграмы з загадамі якнайхутчэй адшукаць загублены вагон. Шукаюць ад Масквы да Вязьмы, ад Вязьмы да Смаленску, а мы тымчасам, таго самага дня, калі мела быць паказанае „Міжбур'е", зрабілі на сцэне пробу „Гуты", і сцэнічную, з акторамі, і тэхнічную, што датарнавала канструкцыі „Гуты" да сцэны. Гэткім парадкам, нам удалося ўсё-ж даць „Гуту" першым паказам. Хоць і ня ў вызначаным для нашага паказу дні, але крыху пазьней, мы выступілі не пасьля Вахтангава, чаго я баяўся, але пасьля Таджыкаў. Чакаючы нашага выступленьня, акторы нашыя прыглядаліся да паказаў іншых нацыянальнасьцяў, у тым ліку й выдатнага грузінскага тэатру імя Руставэлі, пад мастацкім кіраўніцтвам Ахмэтэлі. Гэты паказ даў ім ці мала каштоўнага ў сэньсе сцэнічнага майстроўства.

Але вось, нарэшце, прыйшоў і наш дзень. Мы паказалі сваю „Гуту". Прайшоў наш паказ нязвычайна ўдала, з уздымам. Аб Беларусах загаварылі, як аб таленавітых мастакох, а аб п'есе, як выдатнай і паводля ідэі і паводля паказу. Кажная сцэна, кажны моцны дыялёг — былі ўзнагроджаныя нямоўчнымі воплескамі! У сваёй уступнай да спэктаклю прамове я сказаў, што мы не даём друкаванай праграмы зь перакладам, як было ў звычаі, на расейскую мову, бо „усё будзе зразумела й пабеларуску". Пасьля „Гуты" паставілі мы нарэшце й „Міжбур'е". Ставілі яго ў залі Тэатру Рэвалюцыі. Спэктакль гэты быў таксама вельмі ўдалы. У камітэце казалі, што „Гута", ведама, мацнейшая й арыгінальнейшая, але й „Міжбур'е" — вельмі добра зладжаны паказ, хоць і ў іншым пляне. Відаць, пасьля выдатнае ўдачы „Гуты", нікому на думку ня прыходзіла крытыкаваць нас.

Зачыненьне Алімпіяды адбылося ў б. тэатры Мэйэрхольда. Урачыста, пад гукі аркестры я, як дырэктар БДТ І, атрымаў ад старшыні камітэту Алімпіяды, Фэлікса Кона грамату „за вялікія мастацкія дасягненьні" Беларускага нацыянальнага тэатру. За дзень па зачыненьні Алімпіяды, у Менску адбывалася сьвята 10 угодкаў вызваленьня Беларусі ад Палякаў. Тэрмінова высланыя з Масквы ў Менск дэкарацыі „Гуты" прыбылі сюды паштовым цягнікам на час. Прыехалі парою ў Менск і акторы найхутчэйшым цягнікам „Чырвоная страла" Масква — Стоўпцы. Я-ж, атрымаўшы грамату, пераначаваў на Беларускім вакзале, а раніцою, а 6-ай гадзіне, выехаў у Менск і прыбыў у тэатар пры канцы І-га акту „Гуты". У перапынку пасьля першага акту я мог, гэткім парадкам, прачытаць глядачом атрыманую напярэдадні грамату, як рапарт аб удзеле БДТ ў Алімпіядзе. І тутака грала аркестра, было шмат прывітаньняў. Усе цешыліся з выдатнае ўдачы беларускага тэатру ў усесаюзным маштабе.

На гэтым я канчаю свой першы адрэзак успамінаў. Спадзяюся, што іх будзе больш.

Хачу тут яшчэ зазначыць, што апрача першае ўзнагароды за паказ, Беларусы атрымалі на Алімпіядзе й першую ўзнагароду годнасьцяй Народнага Артыстага. Артыстым гэтым быў нябожчык Уладзімер Крыловіч, які выдатна йграў у „Гуце" ролю старога работніка Мароза.

Былы дырэктар БДТ І, Народны
артысты Беларусі, Вячаслаў
Селях - Качанскі





Амэрыкі й іншых краёў з нашым рухам, з нашаю мінуўшчынай і культураю. Прачытаўшы такую кніжку, перш можа навет ня з мэтаю вывучэньня беларускае праблемы, а толькі ў сувязі з дасьледваньнем Савецкага Саюзу, некаторыя дасьледнікі й студэнты маглі-б стацца нашымі прыхільнікамі.

Маючы на ўвеце мэту гэткае кнігі, у яе трэба было-б улучыць гэткія разьдзелы, як назоў, паходжаньне народу, ягоная гісторыя, традыцыі, мова, літаратура, рэлігія, межы й геаграфія, эканоміка, акупацыя, эміграцыя, сучаснае палажэньне, змаганьне за незалежнасьць ды інш. Усе гэтыя тэмы маглі-б быць апрацаваныя рознымі людзьмі, спэцыялістымі ў розных галінах. Аднэй асобе пісаць такую кніжку магло-б быць і цяжка, але напісаць адзін разьдзел чалавеку, што прысьвяціў ладную частку свайго жыцьця дасьледваньню аднэй з гэтых тэмаў, не павінна быць непасільным. Наагул матар'ял мусіў-бы быць абапёрты на дакладныя факты й дакумэнты.

Як-жа гэткую кнігу выдаць? Перш, ці ёсьць у нас навукоўцы, што маглі-б яе скласьці? Ведама, ёсьць. Трэба адно знайсьці асобу ці установу, якая абмеркавала-б фармат кнігі, знайшла-б спэцыялістых у розных галінах, што пісалі-б паасобныя разьдзелы, а тады — пілнавала-б прагрэсу працы, рэдагавала матар'ял, знайшла-б перакладнікаў зь беларускае мовы ў ангельскую, рэдактара іхных перакладаў, а гэтаксама спосаб выданьня кнігі. Можна, замест даручаць справу адмысловай (навуковай, ведама) установе, выбраць з гэтаю мэтаю камісію з колькіх кампэтэнтных асобаў, і даручыць усю справу ёй. У камісію гэткую, апрача навукоўцаў, маглі-б увайсьці й прадстаўнікі нашых грамадзкіх арганізацыяў.

Апошняе, што трэба было-б знайсьці — гэта грошы на выданьне. Шмат хто скажа, што гэта бадай найважнейшае ў нашых абставінах.

У шуканьні грошай на друк, аплату перакладнікаў, ангельскіх рэдактароў і г. д., бо будуць і гэткія патрэбныя, камісія магла-б зьвярнуцца до ўнівэрсытэтаў, што займаюцца выдаваньнем кніжак. Не павінна яна была-б памінуць і вельмілічных у Амэрыцы дапамаговых арганізацыяў і фондаў, ды, нарэшце, і заможных людзей добрае волі. Калі-б усе гэтыя намаганьні не далі пажаданых вынікаў, ёсьць-жа яшчэ нашая беларуская эміграцыя. Беларускае грамадзтва вельмі ахвярнае, і на гэткую пільную справу, як выданьне кнігі пра Беларусь для карыстаньня амэрыканскіх навукоўцаў ды палітыкаў, напэўна-б адгукнулася.

Што яшчэ сяньня няма саліднае кнігі пра Беларусь, гэта віна эміграцыйнага кіраўніцтва. Эміграцыя мае ўжо тут свае сьвятыні, дамы, лецішчы, навет магільнікі. Аднак усе гэтыя дасягненьні — вузкога мясцовага абсягу, й мала ўплываюць на фармаваньне пагляду аб нас, нашым народзе й краю у людзей, што могуць мець заўтра ўжо вялікі голас у вызначэньні долі народаў,

(Працяг на бал. 11)

## НЯЗЬДЗЕЙСЬНЕНЫЯ СПАДЗЯВАНЬНІ
**(крыху аб беларускім вайсковым школьніцтве)**

У сувязі з артыкулам „З успамінаў аб Беларускай ахвіцэрскай школе", зьмешчаным у № 20-тым часапісу „Беларуская Моладзь" і падпісаным ініцыялямі В. Д., я хацеў-бы дадаць кароткую гісторыю беларускага вайсковага школьніцтва наагул, што будзе якраз дапаўненьнем вышэй згаданага артыкулу.

Найперш, няможна тут памінуць таго, што беларускае вайсковае школьніцтва йснавала ўжо ў часох Першае Сусьветнае вайны, і што шырокі ўдзел у ім мела нашая моладзь.

Калі ў 1919 г. польская армія, ідучы на ўсход, заняла Беларусь па раку Бярэзіну, польскія вайсковыя ўлады не маглі ня лічыцца з настроямі беларускага жыхарства. Імкненьнем Беларусоў ужо тады было арганізаваць сваё войска, каб змагацца за незалежнасьць бацькаўшчыны. Галоўнакамандуючы польскае арміі, Я. Пілсудзкі, каб здабыць прыхільнасьць Беларусаў, дазволіў адмысловым дэкрэтам на арганізацыю двух беларускіх батальлёнаў стральцоў. Для падрыхтаваньня ж беларускіх камандных ахвіцэрскіх кадраў, пры Школе Падхаронжых у Варшаве быў арганізаваны адмысловы беларускі зьвяз з моладзі, што мела скончаную сярэднюю асьвету й сама хацела ў гэты зьвяз ісьці.

Гэткім парадкам, у сьнежні 1919 г. Беларуская Камісія ў Менску набрала была 39 юнакоў зь сярэдняй асьветай, зарганізаваных у зьвяз, з камандзерам-Беларусам і сьціравала іх у Школу Падхаронжых у Варшаву. Неўзабаве, у лістападзе 1920 г. на Случчыне выбухла супроцьбальшавіцкае паўстаньне. У шэрох паўстанцаў знайшліся блізу ўсе юнакі, што скончылі былі Слуцкую беларускую гімназію. Пасьля пераходу паўстанскае дывізіі на тэрыторыю польскае акупацыі ўсе гэтыя юнакі былі выдзеленыя з дывізіі й сьціраваныя ў Беларускую Вайсковую Камісію, што эвакувалася зь Менску ў Лодзь. Камісія паслала іх усіх у Школу Падхаронжых, у Варшаву, дзе зь іх быў арганізаваны другі беларускі зьвяз. Было іх 40 чалавек. Першы зьвяз скончыў шасьцімесячны ваенны курс Школы Падхаронжых. Другі-ж зьвяз, дзеля таго, што вайна тымчасам скончылася, прайшоў нармальны двухгадовы курс мірнага часу. Гэтак Беларусы дасталі 70 вышкаленых маладых ахвіцэраў, што хацелі служыць у беларускім войску. Ня суджана ім, аднак, было зьдзейсьніць гэтае сваё лятуценьне. Вайна скончылася падзелам Беларусі. Польскае ваеннае міністэрства запрапанавала нашым маладым вайскоўцам перайсьці на службу ў польскае войска. Рашчараваная гэткім канцом сваіх спадзяваньняў, большыня зь іх адмовілася. Шмат хто зь іх вярнуўся да бацькоў на савецкую тэрыторыю, іншыя засталіся ў Польшчы і ўладзіліся на працу, і адно невялікая група перайшла ў польскую армію. Да 1939 г. яны дaслужыліся былі ўжо да рангі капітана, ато й маёра. У Другой-жа Сусьветнай вайне блізу ўсе загінулі, хто — на нямецкім фроньце, хто ў Катыні.

Гэткая была доля маладых беларускіх патрыётаў, што хацелі служыць бацькаўшчыне. Ня трэба пісаць аб тым, якая была доля парэзанае напалам Беларусі пад панаваньнем заходняга і ўсходняга панявольнікаў.

У 1941 г. Нямеччына пачала вайну з СССР. Неўзабаве ўся Беларусь і вялікая частка Расеі былі занятыя нямецкай арміяй. Для акупацыі гэткае прасторы была патрэбная вялізная колькасьць людзей. Нямецкія палітычныя дзейнікі дакладна ведалі аб беларускім нацыянальным руху і антысавецкіх настроях беларускага народу. Таму, яны паставіліся да Беларусаў зь некатораю часткаю даверу. Ужо пад восень 1941 г., яшчэ без паразуменьня зь Беларусамі, нямецкія акупацыйныя ўлады пачалі набіраць ахвотнікаў, нашых беларускіх хлапцоў, у вадмысловыя, на вайсковы ўзор арганізаваныя аддзелы дапаможнае паліцыі. Найбольш гэткіх ахвотнікаў было ў Менску. Якраз у гэтым часе, як піша ў сваім артыкуле В. Д., старшыня гораду Менску запрапанаваў мне перабрацца ў Менск і спрабаваць арганізаваць там беларускае войска й беларускую ахвіцэрскаю школу. Я згадзіўся. Калі я прыйшоў у будынкі, дзе знаходзіліся набраныя Немцамі ахвотнікі, дык пабачыў гэткі абраз: ахвотнікаў было каля двухсот чалавек, усе — маладыя беларускія хлапцы, год па 18-20. Камандаваў імі зь беларускага боку капітан савецкае арміі П., камандзерамі-ж зьвязаў і дружынаў былі пераважна нямецкія каляністыя знад Волгі, г. зв. „Волга-Дойч." Былі яны пераважна ў старэйшым веку, але вельмі немаральнага й грубіянскага захоўваньня. Да сваіх падуладных — беларускіх хлапцоў — яны ставіліся вельмі брыдка.

Пабачыўшы, у якія абставіны трапілі нашыя юнакі, я расказаў гэта гарадзкім уладам і запрапанаваў пад шыльдаю падахвіцэрскае паліцыйнае школы, зарганізаваць беларускую вайсковую школьную адзінку. Гэта ўдалося зрабіць, і гэткім парадкам ужо ў 1941 г. у Менску была арганізаваная першая беларуская вайсковая школа, якая мелася рыхтаваць беларускіх камандзераў. У траўні 1942 г. у школе адбыліся першыя экзамэны, што далі вельмі добрыя вынікі. Гэтая ўдача й была прычынай таго, што кажная беларуская вайсковая акцыя тае пары й пасьлей заўсёды пачыналася ад перашкаленьня каманднага складу, на што нямецкія акупацыйныя ўлады пагаджаліся без асаблівых цяжкасьцяў.

У сваім артыкуле В. Д. піша: „Пад канец 1943 году Немцы далі дазвол на стварэньне Беларускае Самаахoвы й першых курсаў для перашкаленьня ахвіцэраў у Менску". Аднак, далей аб арганізацыі Самаахoвы ён піша вельмі мала, і ў чытача застаецца ўражаньне, быццам аўтар хацеў факт арганізацыі Самаахoвы паменшыць. Тымчасам, стварэньне Самаахoвы было заплянаванае, як шырокая беларуская вайсковая акцыя, сьціраваная супраць бальшавіцкае партызаншчыны, што рабавала й нішчыла беларускае сялянства.

У чырвені 1942 г. нямецкія акупацыйныя ўлады выдалі дэкрэт, якім дазвалялі Беларусам арганізаваць сваю вайсковую Самаахoву для абароны беларускага жыхарства. Адказнасьць за арганізацыю Самаахoвы была ўскладзеная Немцамі на старшыню Беларускае Самапомачы. Дэкрэт дазваляў арганізаваць па адным батальлёне ў кажнай акрузе. Зброю для батальлёнаў меліся даць Немцы, а карміць, апранаць і кватараваць мусіла Беларуская Самапомач.

Атрымаўшы дэкрэт, старшыня Самапомачы склікаў сход адказных беларускіх працаўнікоў, каб абмеркаваць справу. Я прапанаваў сходу пачаць арганізацыю ад перашколеньня ахвіцэраў на спэцыяльных курсах, скліканых у Менску, а пасьлей пертшколіць, ужо ў акругах, і падахвіцэраў. Гэтая прапанова была прынятая і тут-же мне было даручана арганізаваць першы курс перашкаленьня ахвіцэраў. Курсаў гэткіх было праведзена тры. На першых двух было перашколеных па 120 чалавек, а на трэйцім — каля 60-цёх. Перашколеныя ахвіцэры, вярнуўшыся ў свае акругі, арганізавалі там курсы перашкаленьня падахвіцэраў. Гэтак, да канца 1942 г., а ня 1943, як памыльна падае ў сваім артыкуле В. Д., былі ўзрыхтаваныя кадры для батальлёнаў Самаахoвы. Арганізаваныя, яны адыгралі вялізарную ролю ў абароне беларускае вёскі ад нападаў партызанаў.

Апрача батальлёнаў Самаахoвы, згаданы вайсковы рэфэрат, узначальваны спачатку палкоўнікам ген. штабу Ул. Гуцькам, а пасьля ягонага звальненьня на собскую просьбу — мною, арганізаваў 13-ты беларускі адмысловы батальлён і батальлён чыгуначны.

Перашкаленьне беларускіх ахвіцэраў і падахвіцэраў ды арганізацыя батальлёнаў Самаахoвы далі вельмі добры вынік. Гэта спрычынілася да памаганьняў беларускіх палітычных дзейнікаў




**Беларускі вэтэраны на Парадзе Лёяльнасьці ў Нью Ёрку (Фота М. К.)**

атрымаць ад нямецкіх акупацыйных уладаў большыя правы самастойнае дзейнасьці. У сьнежні 1943 г. Немцы пайшлі на арганізацыю Беларускае Цэнтральнае Рады, як часовага беларускага ўраду. БЦР найперш узяла вялікую ўвагу на належную арганізацыю змаганьня з савецкай партызанкай. Пад ціскам БЦР Немцы дазволілі на правядзеньне мабілізацыі ў Беларускую Краёвую Абарону (БКА). У сувязі з праектам арганізацыі БКА, як запраўднага ўжо беларускага войска, на аснове ранейшага дазнаньня ўзноў паўстала пытаньне аб арганізацыі вайсковага школьніцтва, найперш — нармальнае ахвіцерскае школы, у якую былі-б пакліканыя юнакі зь сярэдняй асьветай. Якраз гэтаю парою я быў пакліканы БЦР на становішча вайсковага рэфэрэнта. Маім новым абавязкам было першым чынам арганізаваць вайсковы штаб пры БЦР і апрацаваць плян мабілізацыі ў БКА. У сувязі з гэтым я мусіў пакінуць школьную працу й на кіраўніка школы быў назначаны капітан В. Ч.

Атрымаўшы згоду нямецкіх уладаў, БЦР правяла прапаганду ды роўналежна з ахвіцэрскімі курсамі перашкаленьня, у другой палавіне чырвеня 1944 г. ў ахвіцэрскую школу ў Менску зьехаліся 280 маладых кандыдатаў. Курс навукі ў школе прадугледжваўся шасьцімесячны, пасьля чаго ім мелася быць наданая першая ахвіцэрская ранга. Маладыя кандыдаты зь вялікай ахвотай і шчырасьцяй узяліся за навуку. Нажаль, і гэтым разам ня суджана было маладым беларускім патрыётам атрымаць ахвіцэрскія рангі беларускага войска. 28-га чырвеня бальшавіцкая армія пачала набліжацца до Менску. Пачалася хаатычная эвакуацыя. 29-га чырвеня ахвіцэрская школа пешым маршам падалася на Вільню. Ужо ў часе гэтага маршу маладыя хлапцы, няпрывыкшы да фарсованых тэмпаў, пачалі аставацца. У Вільні яны трапілі пад жудаснае бамбардаваньне, прычым 6 вучняў было забітых, а колькі раненых. Пасьля гэтага, школа была пасаджаная ў цягнік і, перажыўшы шмат турботаў, была ў канцы ліпеня няпраўна й наўсуперак дакляраваньням Немцаў, прыдзеленая да г. зв. брыгады Зыглінга. Зыглінг, гэты запраўдны злы дух беларускае вайсковасьці за Немцамі, падзяліў школу на асобныя пададдзелы, і гэтак школа была зьліквідаваная.

Мабілізацыя ў БКА была абвешчаная 10-га сакавіка 1944 г. Яна дала гэткія вынікі: 39 батальёнаў пяхоты й 6 батальёнаў сапэраў.

Адступленьне нямецкае арміі было вельмі неспадзяванае, хуткае й хаатычнае. Нямецкі вайсковы штаб, якому быў падпарадкаваны штаб БКА, адпачатку рабіў вялікія цяжкасьці нашаму камандаваньню, не даючы яму ніякіх тэхнічных магчымасьцяў лучнасьці з раськіданымі па ўсёй прасторы акупаванае Немцамі Беларусі батальёнамі БКА. У часе-ж адступленьня Немцы й зусім, як кажуць „абмылі рукі". Калі я зьвярнуўся ў згаданы нямецкі штаб заразжа пасьля абвешчаньня адступленьня 28-га чырвеня, мне сказалі гэтак: „Ахвіцэрская школа адыходзіць пешым маршам на Вільню. Там яна будзе пасаджаная ў чыгуначны транспарт. Усімжа камандзерам БКА дадзеныя на мясцох загады адступаць на захад зь нямецкімі гарнізонамі. Штаб БКА эвакуецца разам з БЦР у Кэнігсбэрг.

І вось, дзякуючы недаверу нямецкіх уладаў да БКА, стварылася запраўды трагічнае палажэньне. Заставалася адно — спадзявацца на асабістую ініцыятыву камандзераў батальёнаў, што й было блізу ўсюды цалком апраўдана.

**Ф. Кушаль**

УВАГА: На курсах перашкаленьня ахвіцэраў Самаахвовы ў 1942 г. быў апрацаваны ды на пачатку 1943 г. выданы друком асобнай кніжкай Беларускі Вайсковы Страявы Рэгулямін. Дзеля таго, што яшчэ захаваліся 2-3 экзэмпляры гэтага рэгуляміну, я раіў-бы часапісу „Беларуская Моладзь" часткамі перадрукаваць яго, каб даць магчымасьць беларускім юнаком карыстаць зь яго ў летніх лягерах. **Ф. К.**

Масей СЯДНЁЎ

**«Ж Ы Ж А»**

Aus meinen grossen Schmerzen
mach' ich die kleinen Lieder.
**Heinrich Heine**

**Па вечарох, рвучыся з каленяў маці,**
**маленькім, я цягнуўся да „жыжы".**
**А „жыжа" — гэта была лучына,**
**што гарэла у нашай хаце.**
**„Сядзі спакойна, — гаварыла маці: —**
**і ня рвіся, а то — ж ы ж а куся.**
**Я-ж ня слухаўся маці**
**і рукамі цапаў ж ы ж у —**
**найпрыгажэйшую рэч у нашай хаце.**
**І напраўду, прыгожая жыжа кусала балюча,**
**і з тых пор зваць пачаў я жыжу к у с я й .**

**Зьлез з каленяў я матчыных. Сьвет,**
**што зазьзяў за нашаю хатай,**
**пацягнуў мяне, як тая жыжа,**
**і пайшоў я у сьвет недасяжны, далёкі.**
**Ён усімі сваімі фарбамі і колерамі**
**граў у сэрцы маім — і словы мае,**
**як маленьне, ішлі насустрач сьвету.**
**І яшчэ я пазнаў у тым сьвеце нешта,**
**што рабіла яго яшчэ больш прыгожым,**
**гэтым н е ш т а былі самі людзі —**
**найцікавейшыя рэчы у сьвеце.**
**Як да самай прывабнай жыжы,**
**пацягнуўся я да людзей - стварэньняў**
**міласэрных і ціхіх і Боскіх.**
**І пра іх я пяяў у вершах лірычных,**
**і — юнак — палымнеў самым чыстым да іх каханьнем.**

**Толькі як я шкадую, што ўжо маці болей**
**ня было у дарозе разам зы мною,**
**і яна, калі йшоў я да гэтай жыжы,**
**як раней, не сказала мне — к у с я !**

1964 г.

---

у тым ліку й нашага.

Таму — справа кнігі пра Беларусь у ангельскай мове — нязвычайна на часе, і выданьне яе павінна стацца справай гонару камнага Беларуса. Ані бальшавікі, ані расейскія эмігранты кнігі гэтакае нам не напішуць. Трэба брацца за яе самым, і то — безадкладна. Калі-ж мы гэтага ня зробім, дык нашым дзецям і ўнукам не застанецца нічога, за што яны маглі-б учапіцца, пракладаючы далей тут, на Захадзе, і ў цэлым сьвеце, шляхі праз цемру няведы аб Беларусі.

**Я. А.**

## 25-га САКАВІКА Ў АМЭРЫЦЫ

Сёлета, як і летась, сьцяткаваньні Дня Беларускае Незалежнасьці ў бальшыні беларускіх эміграцыйных асяродкаў ладзіліся супольна ўсімі беларускімі арганізацыямі. Здаровае, патрыятычнае лятуценьне беларускае эміграцыі пра задзіночаньне сілаў паступова блізіцца да ўжыцьцяўленьня. Як яно і мусіла-б быць, Дзень 25-га Сакавіка становіцца аб'ядНальным сьцержнем - пачаткам у супольнай працы, і за ім — мы цьвёрда верым, прыдзе задзіночаньне і ў галіне нашае вонкавае рэпрэзэнтацыі й палітычнае дзейнасьці.

Сёлета Беларускае Нацыянальнае Сьвята было таксама шырака, значна шырэй як у мінулым, адзначанае амэрыканскім і іншамоўным друкам ды ўрадавымі коламі.

26-га сакавіка у абедзьвюх палатах Кангрэсу ЗША былі прачытаныя малітвы беларускімі духаўнікамі: Яго Высокапрэсьвяшчэнствам Архіяпіскапам БАПЦ, Уладыкам Васілём і Протапрасьвітэрам Беларускае Праваслаўнае Царквы ў Саўт Рывэры, а Мікалаем Лапіцкім.

З прамовамі прысьвечанымі Дню Беларускае Незалежнасьці выступалі: сэн. Кітынг і Кукель і кангрэсм. Келі, Фарбстэйн, Бэры, Тафт, Вільсон, Гальпэрн, Фіен, Родыно, Мультэр, Даніельс, Фрыдэль, Джоэльсон, Окінклос, Лібонаты, Дэрвінскі, Дэруніян, Ліндзы, Ліпском, Дадарыё і Дынгель.

---

Н. Арсеньнева

## ЁН ГРАЦЬ НЯ СЬЦІХНЕ

**Зноў Дваццаць Пяты Сакавік,
дзень беларускі,
наш,
усіхны,
зайграў Ён паваДкай крыві
калісьці ў нас,
і граць ня сьціхне.
Хай Ён усьцяж яшчэ ня наш,
і Беларусь
хай пад адхонам, —
інакшага
у нас нямаш,
каб за Яго маліцца Кону,
каб за Яго
ўзьнімаць з тугой
вянкі далоняў,
вейкі,
сэрцы,
каб так, як мы тут,
на Яго
чакаць, наўсуперак няверцам.
І люба,
што не ў лістапад
айчына ўскрэсла,
а увесну,
калі вятры імкнуць наўзгад,
а ў кратах рэбраў песьням цесна,
калі зялёны, цёплы сок
пружыніць парасткі й галіны,
а першы вырай у крысо
нябёс урэзвацца клінам,
калі такая ўсюды сінь,
аж вочы ў зьзяньне ўзьняць ня можна...
О, Беларусь,
пашто маніць,
Ты з намі,
ўсьцяж,
у думцы кожнай!
Бо зноў на сьвеце сакавік,
зноў Сакавік
у снох усіхных.
Нізрыннай паваДкай крыві
Ён грае ў нас,
і граць ня сьціхне!**





**Беларускі жаноцкі хор „Каліна" падчас выступу на Сакавіцкай Акадэміі ў Нью Ёрку. Хор будзе гэтаксама выступаць на Сусьветнай Выстаўцы.**

Сёлета, як і летась, 25 Сакавіка адзначаўся БАЗА'й Нью Ёрку і Беларускім Кангрэсавым Камітэтам. Раніцай Божыя службы адбыліся ў Катэдральным Саборы БАПЦ у Брукліне й ў Беларускай Праваслаўнай Царкве у Саўт Рывэры. Акадэмію, якая адбылася ў гатэлі Астор, на Таймс Сквэры, адчыніў малітвай Протапрэсьвітэр айцец Мікалай Ліпіцкі. Былі зачатаныя праклямацыі губэрнатараў Нью Ёрку й Нью Джэрзы.Прадстаўнік мэра Вагнэра абвесьціў 25-га Сакавіка Беларускім Днём Нью Ёрку. Далей выступалі шматлікія прадстаўнікі беларускіх і іншанацыянальных арганізацыяў. Рэфэрат паангельску прачытаў сябра рэдкалегіі „БМ" сп. Васіль Мельяновіч, а пабеларуску сп. С. Коўш.

Пасьля выдатнае мастацкае часткі акадэмія была зачыненая Яго Высокапрэасьвяшчэнствам Архіяпіскапам БАПЦ Уладыкам Васілём.

### ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ Ў ПАСЭЙКУ

Як і мінулымі гадамі, мэр гораду Пасэйку ў штаце Нью-Джэрзі сп. П. Дэ Муро, прыняў беларускую дэлегацыю, і даручыў ёй напярэдадні сёлетніх Сакавіковых Угодкаў праклямацыю, што абвяшчала дзень 25-га сакавіка 1964 году „Беларускім Днём" у Пасэйку.

### 25 САКАВІКА Ў ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

Беларусы Лёс Анджэлесу, Каліфорнія, адзначалі 46-я ўгодкі Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі 5-га красавіка 1964 году. Сьвяткаваньне ладзілася супольна мясцавымі аддзеламі БАЗА й прадстаўніцтвам БККА.

Сакавіковая акадэмія ў Лёс Анджэлесе склададася з дзьвюх частак: У першай, афіцыйнай — увагі заслугоўвала „прырачэньне вернасьці", выкананае Лізай Арцюх, рэфэрат і малітвы „Магутны Божа", а таксама адчытаньне даўгога сьпісу прывітаньняў, як ад беларускіх арганізацыяў, гэтак і ад урадавых амэрыканскіх дзейнікаў на чале з губэрнатарам Каліфорніі Браўнам, сэнатарамі й кангрэсмэнамі.

Другая частка акадэміі складалася з дэклямацыі патрыятычных беларускіх вершаў, сьпеваў і жартаўлівых апавяданьняў. Скончылася яна выступленьнем сьпявачкі Марыі Мяленьцевай, якая выканала пад акампаніямэнт Алімпа Мяленьцева урывак з опэры „Лясное возера" (музыка камп. Куліковіча на лібрэта Арсеньневай) й колькі беларускіх народных песьняў.

Пасьля акадэміі адбыўся невялікі банкет.



Беларускі дзіцячы хор у Саўт Рывэры.

Міхась КАВЫЛЬ

## САКАВІКОВАЯ НОЧ

«Ад веку мы спалі,
І нас разбудзілі...
(З „Беларускай Марсэльезы")

**Сакавік. Поўнач. Звон**
**Скалыхнуўся ў ваддалі.**
**Не бярэ мяне сон,**
**Бо — „ад веку мы спалі..."**

**Тэй мане чужака**
**Шмат хто й сёньня йшчэ верыць,**
**І падносіць рука**
**Алавік да паперы:**

**— Не ад веку... Кастусь**
**Каліноўскі, Сымонаў,**
**Падымаў Беларусь**
**Здужаць сілы прыгону.**

**Падымаў, і ішлі**
**У дубровы і пушчы**
**Непадатнай зямлі**
**Непакора і вушчунь.**

**Не ад веку... Й тады,**
**Як пятлю Мураўёва**
**Апал ў цяжкі ўздых**
**І паніклі галовы,**

**Не заглух на Ліцьве**
**Дух, загнаны ў затульле,**
**Арыгнуўся Маскве**
**Грынявецкага куляй.**

**Не ад веку... Пад грай**
**Бурачковае „дудкі"**
**Адраджэньня пара**
**Брала процьму загрудкі;**

**Умалот, як зару,**
**„Наша Ніва" зьбірала:**
**Багдановіч, Гарун,**
**Колас, Цётка, Купала...**

**І яшчэ, яшчэ...**
**Сьцяг нястрымнай Пагоні**
**Іскры біў із вачэй,**
**Сэрцы, душы палоніў.**

**Гымн, вызвольны, наш гымн**
**Моўкню клічам прарэзаў,**
**Покуль неслі яны**
**Ў Беларусь „Марсэльезу".**

**Не ад веку... У дэпо**
**Беларускай сталіцы**
**Голас кос і сярпоў**
**Гракатаў навальніцай;**

**Беларусі сыны**
**Нашу сьветлую мэту**
**Пад грымоты вясны**
**Абвясьцілі сусьвету...**

**Сакавік. Золак. Звон**
**Зноў прачнуўся ў ваддалі.**
**Хіліць галаву сон.**
**Хай дапіша ўжо ён**
**Тых, што спалі й ня спалі...**

1964 г.





## 25-ты САКАВІК У ЧЫКАГО



**25-га Сакавіка ў Чыкага. Стаяць: Паўлік і Анна Сенькевіч, Ірэна Мароз, Мар'яна Жызьнеўская, Габрыэля Багдан, Ірына Каралюк, Вальтар Жызьнеўскі, Міхась Багдан. Наперадзе: Маланьня Каралюк і Ірэнка Рамук.**

46-тыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі сьвяткавалі сёлета ўсе беларускія арганізацыі ў Чыкаго: Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў штаце Ілінойс, Ініцыятыўная Група Сьвяткаваньня 25-га Сакавіка, Згуртаваньне Беларусаў у штаце Ілінойс, і Беларуская Нацыянальная Рада ў Чыкаго.

У сувязі з сьвятам 25-га сакавіка, Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў штаце Ілінойс (АБАМСІ) прыгатавала і выслала ўва ўсе англамоўныя і іншамоўныя газэты ў Чыкаго спэцыяльны прэсавы камунікат аб Беларусі. Вынік быў добры, бо газэты, як “Chicago Sun-Times”, “Chicago Daily News”, летувіская газэта “Draugas” ды „Українське Життя” зьмясьцілі наш артыкул у цэласьці, а “Draugas” дадаў і ад сябе свае пагляды аб Беларусі, а менавіта, што летувісы заўсёды былі і ёсьць за тым, каб Беларусь была незалежнаю дзяржаваю. Іншыя газэты таксама надрукавалі кароткія зацемкі аб гэтай падзеі. Таксама былі зьмешчаныя артыкулы аб Беларусі і 46-тых угодках абвешчаньня незалежнасьці БНР і ў польскіх газэтах’ “Dziennik Zwiazkowy” і “Dziennik Chicagoski”.

АБАМСІ таксама выслала лісты да прэзыдэнта ЗША, дзяржаўнага сакратара і да сваіх сэнатараў і кангрэсмэнаў, у якіх гаварылася аб угодках незалежнасьці Беларусі, аб жаданьні беларускага народу стацца ізноў незалежным ды парушалася справа прызнаньня Дзяржаўным Дэпартамэнтам ЗША права беларускаму народу на дзяржаўную незалежнасьць. У лістох АБАМСІ прасіла наш урад падняць у Аб'еднаных Нацыях пытаньне расейскага каляніялізму у Ўсходняй Эўропе, імкнуцца атрымаць магчымасьць высланьня амэрыканскіх артыстых у гарады нацыянальных рэспублікаў Савецкага Саюзу, ды дамагацца ад Савецкага Саюзу дапушчэньня артыстых з нацыянальных рэспублікаў на амэрыканскія сцэны, каб паказаць мастацтва сваіх краёў. Для амэрыканскіх артыстычных гурткоў прапанаваліся такія гарады Беларусі: Менск, Віцебск, Полацак, Бабруйск, Гомель, Магілеў, Баранавічы, Горадня і Наваградак.

Таксама прасілася ўрад ЗША, каб дамагаўся ад Савецкага Саюзу дазволу для амэрыканскіх грамадзян беларускага паходжаньня даведацца да сваякоў на мясцох іх жыхарства. АБАМСІ атрымала ўжо некалькі адказаў, зь якіх відаць, што некаторыя кангрэсмэны ўжо зрабілі адпаведныя захады ў справах закранутых у лісьце АБАМСІ.

Стараньнямі АБАМСІ дзень 25-га сакавіка быў таксама абвешчаны Днём Беларускае Незалежнасьці ў штаце Іллінойс губэрнатарам Отто Кэрнэрам.



## САКАВІКОВАЯ АКАДЭМІЯ

21-га сакавіка беларуская сыботняя школа ў Кліўлендзе ладзіла сьвяткаваньне 46-х угодкаў Абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Дзеці меліся самі правесьці ўсю акадэмію, як палітычную, гэтак і мастацкую часткі. Адчыніў акадэмію Ўладзімер Страпко. Амэрыканскі нацыянальны гімн адыграла на піяніне Ларыса Мікуліч. Рэфэрат аб сьвяце прачытала Галіна Кананчук. Мастацкая частка складалася з народных танцаў, граньня на піяніне ды акардэёне й дэклямацыі. Удзел у ёй узялі:

Вуч. І-е клясы Юля Радзюк зь вершам М. Багдановіча „На чужыне". вуч. 4-ае клясы Адвард Сяргіевіч, які выканаў на акардыёне жаўнерскую песьню „У гушчарах" (муз. камп. М. Кулíковіча на словы Н. Арсеньневай), раманс „Васількі" (словы М. Кавыля, музыка камп. Кулíковіча) і „Люблю наш край", (камп. Равенскага на словы К. Буйла), вуч. 2-е клясы Галіна Каляда (якая, апрача гэтага, грала на піяніне), Ларыса Мікуліч і Марыя Каваленка, што прадэклямавалі верш А. Змагара „А ці помніш той край", вучні 1-е й 2-е клясаў Дуня Дунец, Антон Шпэндзік, Анюта Радзюк, Васіль Мíраеўскі, Марыя Каваленка, Уладзімер Дунец, Ларыса Мікуліч і Міхась Яраховіч, і найгалаўнейшы, сам Юрачка, — Алесь Дунец, якія пратанцавалі беларускі народны танец „Юрачка", ды вучні 2-е клясы із дэклямацыяй вершу А. Змагара „Здабудзем змаганьнем". Зачыніў акадэмію Ул. Страпко, а беларускі нацыянальны гімн заграла на піяніне Ларыса Мікуліч. Канфэрансье была вуч. 4-е клясы Марыя Каваленка. Парадку ў залі пільнаваў вуч. 4-е клясы Ул. Сяргіевіч.

## І Ў НЬЮ-БРАНСЬВІКУ

Беларусы Нью-Брансьвіку сьвяткавалі ўгодкі абвешчаньня Беларусі — Незалежнай Народнай Рэспублікай у нядзелю 29-га красавіка. Раніцою адбылася Божая служба, а папаўдні акадэмія, на якой былі прачытаныя два рэфэраты. Беларускі рэфэрат чытаў сп. Ул. Бакуновіч. Ангельскі рэфэрат — сп. В. Русак.

На акадэміі выступалі гэтаксама прадстаўнікі мясцовых амэрыканскіх уладаў ды іншых нацыянальнасьцяў.

Мастацкая частка акадэміі складалася здэклямацыяў, сьпеваў і таанцў у выкананьні сяброў і сябровак мясцовага аддзелу ЗБМА.

→ 12-га сакавіка сябры аддзелу ЗБМА былі ў сталіцы штату Нью Джэрзы, Трэнтане і атрымалі ад губэрнатара Рычарда Гюза праклямацыю Беларускага Дня ў Нью Джэрзы з нагоды 46-тых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларус.

На пісьмовую просьбу сяброў ЗБМА, сп. Гюз згадзіўся стацца ганаровым сябрам ЗБМА. Губэрнатар заявіў:

"I am pleased and honored to accept the honorary membership of your organization."

## ХРОНІКА

6-га й 7-га студзеня сёлета Кліўлендзкая беларуская моладзь наведвала з „Калядою" беларускія хаты. Калядоўшчыкі вельмі прыгожа сьпявалі пад кіраўніцтвам акардыяністага Ул. Ліцьвінкі.

7-га сакавіка моладзь ладзіла вечарыну, на якой было шмат моладзі з Дэтройту.

14-га сакавіка група моладзі ў нацыянальнай вопратцы наведала гарадзкую бібліятэку, дзе адбываецца цяпер выстаўка беларускага народнага мастацтва.

15-га сакавіка аддзел ЗБМА ў Кліўлендзе ладзіў запусны банкет з мастацкімі выступленьнямі й танцамі. Пачаўся ён малітваю, прачытанаю а. А. Крытам. Прамаўлялі кіраўнік аддзелу Ул. Дунец і сп. К. Кіслы. У мастацкай частцы выступалі маладзенькія акардыяністы Воля Дубаневіч і Адварды Сяргіевіч. Салістка Іра Каляда, актыўная сяброўка аддзелу, прыгожа прапяяла тры беларускія песьні пад акампаніямэнт акардыёну Ул. Ліцьвінкі. Сьпявалі й усе госьці. Пасьля банкету паплылі гукі аркестры „Палесьсе" пад кіраўніцтвам таго-ж Ліцьвінкі.

Прыбытак зь вечарыны прызначаны на выданьне гісторыі Беларусі, патрэба якой гэтак войстра адчуваецца на эміграцыі.

## НЬЮ БРАНСЎІК

→ Аддзел ЗБМА з запалам рыхтуецца да беларускага выступу на Сусьветнай Выстаўцы — 21-га чырвеня 1964 г.



## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 САКАВІКА Ў МЭЛЬБУРНЕ, АЎСТРАЛІЯ



**Удзельнікі танцавальнага гуртка, зьлева направа: Уршуля Нікан, Марыя Басарыновіч, Валодзя Тэрашкевіч, Галіна Гірыс, Тамара Басарыновіч, Нінка Грыцук, Мікола Гуз, Юрка Нікан, Ірэна Басарыновіч і Лявон Гірыс.**

Дзень Беларускае Незалежнасьці адзначаўся 5-га красавіка. Сьвяткаваньне было арганізаванае Беларускім Цэнтральным Камітэтам у Вікторыі. Камітэт гэты складаецца з прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў. Урачыстасць пачалася малебнам, які адправіў айцец Аляксандар, настаяцель парахвіі БАПЦ ў Мэльбурне. Адчыніў акадэмію й кіраваў ёю сп. У. Гірыс. Рэфэрат аб Сакавіковым Акце прачытаў сп. А. Калодка.

Мастацкая чсатка акадэміі пацешыла прысутных прыемнай неспадзеўкай — выступленьнем танцавальнага гуртка моладзі. Кіравала гуртком сп-ня Тамара Басарыновіч, якая шмат папрацавала, але затое й была ўзнагароджаная вялікаю ўдачаю маладых танцораў угледача. Апрача выступленьня беларускага хору пад кіраўніцтвам сп. П. Мікуліча, на акадэміі быў гэтаксам адыграны паказ „Дух праўды — духу зла непадуладны", напісаны паэтам А. Салаўём. Удзел у ім узялі сам аўтар, В. Кукель, М. Скабей, В. Русак і А. Душэвіч. Дзеці — Лявон Гірыс і Юрка Нікан дэклямавалі беларускія вершы.

Сёлетняе сьвяткаваньне ў Мэльбурне, ладжанае супольнымі сіламі ўсяе тамтэйшае беларускае калёніі, адзначалася высокім узроўнем і духовым уздымам. Вялікая колькасьць прысутных, добрая праграма, энтузіязм арганізатараў і ўдзельнікаў, — усё гэта сьветчыла, што Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі йдзе правільным шляхам.

**А. Кураноўскі.**



## ПРА БЕЛАРУСЬ НА ЎНІВЭРСЫТЭТАХ

На бібліятэкаведным факультэце штатнага ўнівэрсытэту Нью-Джэрзы Ратгэрс, студэнт **Я. Ю.** апрацаваў сэмінар „Беларускія бібліятэкі ад пачаткаў на 19-ае стагодзьдзе".

* * *

На факультэце палітычных навукаў Калюмбійскага ўнівэрсытэту ў Нью-Ёрку студэнт С. Казакоў скончыў працу на тэму: „Савецка-Літоўскія дачыненьні, жнівень — кастрычнік 1919 году", камэнтуючы беларускі палітычны рух у прыгаданым часе.

## У ДЭТРОЙЦЕ ЗАСНОВАНЫ АДДЗЕЛ ЗБМА



8-га лютага сёлета ў Дэтройце адбыўся арганізацыйны сход тамтэйшае беларускае моладзі, на якім быў заснаваны аддзел ЗБМА ў Дэтройце. У кіраўніцтва аддзелу ўвайшлі: Юрка Мазура — кіраўнік, Пятрусь Пляскач — заступнік кіраўніка, Таня Карповіч — сакратар і выбраная пасьлей Лена Сажыч — скарбнік. У ваддзеле лічыцца 22 сябры, 13 хлапцоў і 9 дзяўчатаў, блізу ўсе маладзейшыя за 20 год.

Пасьля сходу, на якім былі сябры й сяброўкі з аддзелу ЗБМА ў Кліўленде, адбыліся танцы.

7-га сакавіка сёлета сябры й сяброўкі новага аддзелу (10 асобаў) наведалі сваім парадкам Кліўленд і вечарыну, ладжаную тамтэйшаю моладзяй. Тутка яны мелі нагоду пазнаёміцца зь сябрамі й сяброўкамі Кліўлендзкага аддзелу ЗБМА, а таксама навязаць зь імі лучнасьць у працы на будучыню. Згаданыя наведзіны былі першаю афіцыйнаю сустрэчаю паміж аддзеламі.



**Малодшыя сябры й сяброўкі ЗБМА аддзелаў Кліўленд і Дэтройт падчас сяброўскае сустрэчы ў Кліўлендзе.**



## БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА У КЛІУЛЭНДЗЕ

10-га лістапада летась Бацькаўскі Камітэт пры беларускай школе ў Кліфлендзе арганізаваў супольны абед, каб эдабыць крыху грошай на пакрыцьцё запляванае на будучыню праграмы.



11-га студзеня сёлета пры школе была зладжаная дзіцячая ялінка. Школьны драматычны гурток пад кіраўніцтвам Іры Каляды паказаў п'есу А. Змагара „Коляды".

Перад вачыма глядачоў — беларуская вясковая хата. У хаце — стары, сівы дзед (Ул. Страпко), унук (Юрка Сацэвіч), маці (Галіна Кананчук) і малая дачушка Любка (Рагнеда Грынкевіч). Мінае дзея па дзеі. На сцэну выходзяць усё новые й новые акторы: бацька (Міхась Шпэндзік), Алесь (Анатоль Патапенка), Ліда (Крыстына Каваленка), цыган (Віктар Страпко), маладзіца (Зося Каваленка), Немец (Янка Лук'янчык), кабыла (Ул. Сяргіевіч і Віктар Стрэчань), механоша (Лёня Каляда), Шчодра (Галіна Каляда), І-я сяброўка Шчодры (Ларыса Мікуліч), калядоўшчыкі (Рагнеда Дунец, Ул. Дунец, Дуня Дунец, Маруся Каваленка, Каця Яраховіч, Юля Радзюк, Анюта Радзюк, Антось Шпэндзік, Ганна Гасьцеева, Стась Гасьцееў).

Было што і пабачыць і паслухаць! На сцэне зьмяняліся песьні, дэклямацыя, музыка, скокі, гульня, а да гэтага — сама сцэна была ператвораная ў запраўдную сьвяточную беларускую хату, а ўсе маладыя акторы — дасканальна загрымiраваныя паводля сваіх роляў, выкананых зь вялікім майстроўствам і талентам.

Пасьля паказу школьны хор пад кіраўніцтвам настаўніка К. Кіслага выканаў дзьве калядныя песьні, было й граньне на піяніне й дэклямацыя вершаў, а дзед Мароз (сп. Гасьцееў) раздаў дзецям падарункі.

У радасным калядным настроі пакідалі бацькі ды ўсе госьці залю, шчыра жадаючы сваёй школе далейшае ўдачы ў працы.

### СЯБРОЎСКІ ВЕЧАР АБАМСІ

4-га красавіка АБАМСІ ладзіла Сяброўскі Вечар - Гарбатку, на якім моладзь правяла весела час у гульнях і сяброўскіх бяседах.

Таксама дыскутаваўся плян працы на будучыню. Прадбачыцца вельмі цікавая праграма на цэлы 1964 год.

АБАМСІ і далей праводзіць 10-ці мінутавыя месячныя радыё-перадачы для беларусаў у Чыкаго з праграмы „Украінскія Мэлёдыі" спадарства Самбірскіх. Перадачы гэтыя карысныя для Беларусаў і таксама вельмі папулярныя сярод слухачоў Украінцаў.

## МІЖНАРОДНАЯ ВЫСТАЎКА У ЧЫКАГА



Беларуска дэлегацыя ў Мэра Чыкага.

Напрыканцы леташняга году, 16-га й 17-га лістапада, у Чыкага адбылася 4-я гадавая „Міжнародная выстаўка". Бралі ў ёй удзел і Беларусы. Кіраваў беларускую праграму выстаўкі адмысловы камітэт, выбраны з прадстаўнікоў усіх беларускіх арганізацыяў Чыкага. У Камітэт увайшлі, гэткім парадкам, і Арганізацыя Беларуска - Амэрыканскае Моладзі Штату Ілінойі, і радыё Нёман, і Згуртаваньне Беларусаў у Штаце Ілінойі, і Беларуская Нацыянальная Рада, і царква сьв. Юр'я, і царква сьв. Спаса, а таксама колькі асобаў, што не належаць да ніякае арганізацыі.

Беларускі стэнд выстаўкі быў вельмі багаты й цікавы. Было тут прадстаўленае, як належыць, і беларускае ткацтва, і вышыўка, і іншыя беларускія мастацкія вырабы. Атракцыяй стэнду былі абразы ведамага беларускага мастака П. Міранові́ча.




Дзяўчаты на выстаўцы ў Чыкага.

У часе выстаўкі адбыліся й беларускія мастацкія выступленьні. Яны карысталіся вялікаю ўдачаю ў наведвальнікаў. Асабліва спадабалася ім нашая Лявоніха ў выкананьні беларуска-амэрыканскае моладзі ды песьні спадарыняў .НГрадэ й А. Брушкевіч пад акампаніямэнт праф. М. Куліковіча.

Выстаўку наведаў мэр места Чыкага сп. Рычард Дэйлі.

Варта адзначыць, што згаданая выстаўка была спробаю сяброўскага супрацоўніцтва беларускіх арганізацыяў у Чыкага. Трэба адно пажадаць, каб яно лучыла іх надалей, ня толькі для міжнароднае рэпрээзэнтацыі, але й для нутранога беларускага жыцьця, супольных акадэміяў, сьвятаў, юбілеяў. Бо толькі ў задзіночаньні нашая моц і павага, толькі разам патрапім мы належна змагацца зь няпраўдай, пашыранай пра нас нашымі варагамі.

### НЬЮ ЁРК

< 13-га лютага адбыўся перавыбарны сход аддзелу ЗБМА. У новае кіраўніцтва ўвайшлі: **Багуслаў Станкевіч** — старшыня, **Аўген Дубовік** — арганізацыйны рэфэрэнт, **Валентын Гарошка** — культурны рэфэрэнт, **Крыся Юрцэвіч** — скарбнік і **Ларыса Кліншэвіч** — сакратар. **Аўген Несьцяровіч** застаецца й далей прадстаўніком аддзелу ў Радзе Народнага Мастацтва. **Паўла Алексы** й **Надзя Мельяновіч** былі абраныя ў рэвізійную камісію.

Найбольш энэргіі аддае аддзел рыхтаваньню да Сусьветнае Выстаўкі ў Нью Ёрку, на якой мае выступіць танцавальны гурток ЗБМА. Гэты выступ мае адбыцца 21-га чырвеня.

Улетку мае аднавіць сваю дзейнасьць **спартовы гурток** пад кіраўніцтвам сяброўры Паўла Каваля. Апрача рэгулярных зборак танцавальнага гуртка, аддзел пляную наведаць некаторыя тэатральныя паказы ў Нью Ёрку і колькі дыскусійных зборак на тэмы зь беларусаведы.

### ВІТАЕМ!

Спадарства Ул. Літвінку з нараджэньнем дачушкі. Хай расьце для ўсіх на пацеху.

### САЎТ РЫВЭР

Як і ў мінулым, так і гэтым разам Саюз Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ладзіў у залі Шакаў гучную сустрэчу 1964 году. Застаецца толькі падзякаваць гаспадыням і гаспадаром сустрэчы, што так умела наладзілі яе й далі магчымасьць вясёла правесьці Новагоднюю ноч.

* * *

19 студзеня ў залі Шакаў адбылася „Ялінка" для беларускіх дзяцей. У праграме „Ялінкі" выступалі: хор вучняў парахвіяльнае школы пад кір. камп. К. Барысаўца; дзьве балетныя групы пад кір. сп-ні Вілы Леўчук і, як заўсёды, дзеці спаборнічалі ў умельсьцьве дэкламаваньня вершаў. На канчатак „Дзед Мароз" раздаў падарункі.

* * *

22 лютага ў зале Шакаў СБАМ ладзіў удалую вечарыну.

* * *

29 лютага у залі Шакаў адбыўся „Канцэрт - Варыетэ". Вельмі прыемным было выступленьне беларускага жаноцкага хару „Каліна" пад кір. камп. К. Барысаўца. Апрача выступу хору, былі паказаныя два скэчы: „Ну й Амэрыка" і „Нясьмелая нявеста" — абодва напісаныя сп-няй Ірэнай Цупрык. Таленавіта выконвалі солё й дуэты: Рэня Касьцюк, Кацярына Яцэвіч, Натальля Кіркевіч, Пятро Блін і Пятро Нядзвецькі. Мастацкае чытаньне Ірэны Цупрык да глыбіні кранула ўсіх пры ўспаміне малюнкаў роднага краю і тых падзеяў, што там адбываліся. П. Нядзьвецкі ў „Гутарцы Пракопа" унёс на залю шмат ажыўленьня й весялосьці. Канцэрт закончыўся „Беларускім лубком" у выкананьні сп-ні К. Яцэвіч і сп. В. Цярпіцкага.



Нэлю й Анатоля Шуракоў з нараджэньнем сына Адварда.

Марыю і Уладзімера Траскевічаў з нараджэньнем дачушкі Пэтрышы.

## ЦІКАВЫЯ КНІЖКІ, АРТЫКУЛЫ, ЗАЦЕМКІ...

**J. Edgar Hoover.** The U. S. businessman faces the Soviet Spy. (Harvard Bus. Rev. 42 (1), 1964).

Кіраўнік ФБАЙ (FBI) на аснове шматгадовае практыкі гэтае ўстановы расказвае й аналізуе спосабы дзеяньня савецкіх шпіёнаў, схаваных пад маскаю дыпляматаў, прадстаўнікоў ды інш. Радзім нашым сябром прачытаць гэты артыкул, асабліва тым, хто мае паводля прабегу свае працы патрэбу сустракацца з савецкімі прадстаўнікамі.

* * *

**John Grigg.** The Cold War Will Not End in Our Time. (The New York Times Magazine, Feb. 2, 64).

На думку аўтара гэтага артыкулу, палепшаньня дачыненьняў з Савецкаю Расеяй, якога чакае заходні сьвет, дасягнуць яму ня ўдасца. Памылкаю Заходу — спадзяваньні на нейкія большыя перамены ў СССР, бо ўсе гэтыя спадзяваньні — цалком беспадстаўныя.

* * *

**Guy Richards.** Washington disenchants captive nations-China dents Iron Curtain harder than U. S. (New York Journal-American, Ap. 4, 1964).

У вартыкуле аўтар падае інфармацыі аб паняволеных народах Савецкага Саюзу і Ўсходняе Эўропы:

"Only brute force, military power and secret police enable the 90, 000,000 Great Russians to hold in bondage more than 98,000,000 persons in Albania, Bulgaria, Czechoslovakia, Estonia, Hungary, Latvia, Lithuania, Poland and Rumania — **and more than 133,000,000 persons in the "captive races" inside the USSR — Ukrainians, Byelorussians, Armenians, Turkestanis, Tartars, Mongolians etc."**

* * *

Арганізацыя "Assembly of Captive European Nations", зь якою сп. Рычадс меў інтэрв'ю, сьцьвярджае, што й самі Расейцы паняволеныя камуністычнай партыяй. У вадказ на гэта сп. Рычардс зазначае:

"But the captive races won't buy this theory. The reason is simple. The Communist bigshots who boss them around belong to the same aggressive clan of Great Russians who struck out in all directions under the czars to "colonize" the other races in a surge of Russian imperialism that has never ceased.

The pent-up grievances of these 231,000,000 Red captives is the "sleeper" in Eurasian politicas which the Red Chinese seem to be far more eager to awaken than we are."

## ДАСЯГНЕНЬНІ БЕЛАРУСАЎ У СЬВЕЦЕ

На інтэрнацыянальнай канфэрэнцыі ў Вашынгтоне, Д. С., прысьвечанай канструкцыі радыяцыйных капсуляў, **сп. К. Вайцяхоўскі** прадставіў сваю працу аб шматкамерных радыяцыйных капсулях з асобнай інструмэнтацыяй.

* * *

У славянскім клюбе ўнівэрсытэту штату Індыяна выступаў на вечары паэзіі **ведамы беларускі паэт Масей Сяднёў.** На вечары чыталіся й дэклямаваліся вершы па-расейску, па-польску, па-ўкраінску, па-беларуску й па-сэрбску. Тымчасам, як усе ўдзельнікі дэклямавалі ўзоры свае клясыкі, із сучаснымі сваймі беларускімі вершамі выступіў сам аўтар. Можа таму нашаму паэту ўдалося найболыш зацікавіць слухачоў. Колькі студэнтаў — Амэрыканцаў нагэтулькі захапіліся беларускімі вершамі й мовaю, што пачалі прыватна браць лекцыі беларускае мовы. Давялося М. Сяднёву й шырэй гаварыць студэнтам пра беларускую літаратуру.

У мясцовым амэрыканскім друку аўтарава выступленьне было азначанае, як „суцэльная ўдача".




## БЕЛАРУСЬ У ІНШАМОЎНЫМ ДРУКУ

ABN Correspondence v. 14 (5), 1964. У вартыкуле „Савецкі слоўнік нішчыць чысьціню беларускае мовы", нехта Н. Н-дзе аўтарытэтна й рэчава сьцьвярджае моўны каляніялізм (русыфікацыю) ў дачыненьні да беларускае мовы, бяручы за аснову свайго цьверджаньня Беларуска-Расейскі слоўнік, выданы ў 1962 г. у СССР.

The New York Times, 10. III. 64, надрукаваў артыкул і карту, дзе зазначаныя галоўныя савецкія нафтаправоды. У вартыкуле сказана, што адзін з важнейшых нафтаапрацоўных цэнтраў СССР сяньня — гэта Беларусь.

„Новое Русское Слово" зьмяшчала апошнім часам зацемкі нашага пісьменьніка Ю. Віцьбіча на розныя беларускія тэмы. Нядаўна, 29-га сакавіка, у газэце зьявіўся ўзноў вялікі артыкул Віцьбіча, прысьвечаны супроць бальшавіцкаму паўстаньню на Гомельшчыне, ведамаму, як Строкапытаўскае паўстаньне.

The Cleveland Folk Arts Association. List of Officers and Members for 1964.

Беларусаў рэпрэзэнтуюць у гэтай арганізацыі: сп. У. Дунец, К. Калоша і Ю. Гасьцееў.

**The Cleveland Plain Dealer,** 31 студзеня 1964 г. прысьвяціў балонку кліўлендзкай Lincoln High School і падаў, што сярод нацыянальнасьцяў, якія наведваюць школу, ёсьць і Беларусы.

**The New York Times,** Monday, March 23, 1964. **500 Recall Independence of Byelorussian Republic** More than 500 persons gathered in the Astor Hotel yesterday to mark the 46th anniversary of the declaration of independence of the Byelorussian Democratic Republic.

## НОВЫЯ ВЫДАНЬНІ

Кніжкі:

**Я. Г.** Лемантар для школаў і хатняга навучаньня, Ню-Ёрк, выданьне Заранка, 1964 г., 96 бал.

Лемантар мае 66 бал. лацінскімі літарамі, рэшта — кірыліцай.

**Г. Гарэцкая.** Родны край. Часовая чытанка для 3 і 4 класаў. Кліўлэнд, Беларуская сыботняя школа ў Кліўлэндзе пры царкве Жыровіцкае Божае Маці. 1964, 26 бал.

Чытанка — частковы перадрук з чытанкі Г. Гарэцкай.

Карты:

Этнаграфічная карта Беларусі. Маштаб 1 см — 25 кіл. Беларуская сыботняя школа ў Кліўлэндзе.

Этнаграфічная карта Беларусі (нямая), маштаб і выданьне, як вышэй.

Ноты:

„МАЛЕБЕН", „ПАНІХІДА І ПАХОВІНЫ", апрац. К. Кіслага. Выд. Аддзел ЗБМА ў Кліўлэндзе, 1964. Цана 1 дал. 1 экзэмляр.

**Рыхтуецца да друку:**

Сьпеўнік „Беларускія вайсковыя песьні".

У зборніку мае быць каля 100 песьняў, падзеленых на разьдзелы — гістарычныя, вайсковыя маршавыя, песьні жаўнераў БКА й г. д.

Былыя жаўнеры БКА, калі хто памятае нейкую асаблівую песьню, што сьпявалася ў ягоным батальёне, зьвязе, — просяцца прысылаць іх дзеля улучэньня ў зборнік. Укладае сьпеўнік Ул. Рамановіч, ахвіцэр БКА.

У справах сьпеўніка просім зьвяртацца на адрыс нашага часапісу.

**СУРОДЗІЧЫ БЕЛАРУСЫ!** НАБЫВАЙЦЕ БІЛЕТЫ НА СУСЬВЕТНУЮ ВЫСТАЎКУ Ў НЬЮ ЁРКУ ПРАЗ БЕЛАРУСКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ. ПІШЭЦЕ НА АДРЫС ЗБМА: 401 Atlantic Ave., BROOKLYN 17, N. Y.

## НАМ ПІШУЦЬ

Сп. М. Васілеўскі з Філядэльфіі піша: „Неспадзеўкі атрымаў два нумары (18 і 19) часапісу „Беларуская Моладзь". Гэта быў для мяне найлепшы калядны падарунак.

Часапіс ня толькі тэкстам, але й вобразна — фатаздымкамі адлюстроўвае жыцьцё Беларусаў на эміграцыі. Прыемна бачыць згоду моладзі Згуртаваньня й Саюзу ў працы на культурна-нацыянальнай ніве, хоць бацькі яшчэ нядаўна й розьніліся паглядамі у партыйна-палітычным жыцьці. У добры час згода!

Тэхнічна часапіс выканаsuccessfully, як лепей ня трэба".

* * *

Прафэсар Бахус, ведамы амэрыканскіх навуковец, ужо гады дасьледуе гісторыю славянскіх народаў. Ён выдаў колькі працаў і зь гісторыі Літвы-Беларусі. У нумары 18 „Беларускае Моладзі" мы паведамлялі, што прафэсар О. Бахус працуе цяпер над тэмай уплыву права Літвы-Беларусі на правадаўства Маскоўшчыны. Нядаўна выйшла ягоная праца "The history of Belorussia in recent Soviet historiography" (Jahrbücher für Geschichte Osteuropas Jahrgang 11, Heft 1. s; 79—96).

У лісьце да аднаго зь сяброў рэдкалегіі „БМ" праф. Бахус піша гэтак:

"... I am not Belorussian myself but have become convinced that an understanding of Belorussian history is a key to the understanding of many of the most important developments in Eastern Europe, as well as being very interessting in and for itself."

„Жадаю посьпеху ў працы"

В. Жук-Грышкевіч

* * *

АДКАЗ РЭДАКЦЫІ Сп. Я. Калюціку,

Пэтэрсон, Н. Дж.

У прынцыпе мы супраць усялякіх перадрукаў, тым балей перадруку вершаў. Таму й верш, прысланы Вамі, мы ня друкуем.

Рэдакцыя



Дарагая моладзь беларуская!

Я ня маю нагоды нідзе, каб увайсьці ў Бтларускую Моладзь. Як я бачу, на фатаграфіях у Амэрыцы ў некаторых мясцох яна выходзіць у беларускіх народных строях на сцэну. Гэта мне вельмі падабаецца. Я пераглядаю кажную кніжачку. Мы жывем пасярод чужых людзей, але я стараюся ўтрымаць мову сваіх родзічаў. Мы тут беларускай школы ня маем. Вучуся ў хаце чытаць і пісаць у беларускай мове. Жадаю Вам посьпеху ў пашыраньні беларускае культуры й мовы.

З пашанаю, Зося Пракопчык
Кобург, Онтарыё (Канада)

П. С. Мне 12 год.

* * *

Т. Сайко з Мінэаполісу піша:

„Дарагая наша моладзь Вялікалітоўская (беларуская), чалом! Вельмі шчыра дзякую за Ваш часапіс „Беларуская Моладзь". Заўсёды, адзержаўшы яго, стараюся пераглядзець дакладна, зьвяртаючы ўвагу пераважна на балючыя месцы, а такіх месц у беларускай літаратуры вельмі многа, аж ад іх робіцца цяжка...

* * *

Але паміма ўсяго, што дзеецца пасярод нашае эміграцыі і што пішацца й нашай беларускай прэсе, дык скажу, што Вашэцяў часапіс я люблю і ўважаю і за Вашэцяву шчырасьць к свайму грамадзяніну пачуваюся Вашым даўжніком".

* * *

→ Сябры аддзелу ЗБМА бралі актыўны ўдзел у сьвяткаваньні 25-га Сакавіка ў Нью Брансўік.

